© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 43 (142) 17 - 23 лістапада 1995 г. Кошт 600 рублёў

ТРЭЦЯЙ СІЛЫ НЯМА - ст. 3.

АЗОТ ДАМОВІЎСЯ З КЛАЙПЕДАЙ - ст. 4.

ДАСТАЛІ ЖАНЧЫН РЭВІЗОРЫ - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ФРОНТ ГЛЯДЗІЦЬ УПЕРАД

**11 лістапада ў Менску адбыўся Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».**

Сойм разгледзеў палітычнае становішча ў краіне напярэдадні выбарчай кампаніі. Былі прыняты «Зварот да беларускага народу», «Зварот да міжнароднай супольнасьці» і «Заява Сойму Беларускага Народнага Фронту» з нагоды прызначэньня палкоўніка Федэральнай службы бясьпекі Расейскай Федэрацыі Леаніда Ерына намесьнікам старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь.

У гэты ж дзень адбыўся Сойм Партыі БНФ. Ён правёў апошнюю карэктуру расстаноўкі сілаў напярэдадні выбараў. Былі разгледжаны пазіцыі Партыі БНФ у Смаргоні, Мядзелі і Першамайскай выбарчай акрузе г.Менска. Прынятыя адпаведныя пастановы.

**Станіслаў СУДНІК.**

*Іншыя матэрыялы, прысьвечаныя Сойму, чытайце на 3 стар.*

## ЗАКОН РОЎНЫ ДЛЯ ЎСІХ?!

**15 лістапада ў аблвыканкаме ладзілася прэс-канферэнцыя для журналістаў па пытаньнях падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы дэпутатаў. Распачаў сустрэчу Уладзімір Амелька - кіраўнік прэсслужбы аблвыканкаму. Пасьляінфармацыйныя спавешчаньні мелі Марыя Бірукова - загадчыца аддзела арганізацыйна-кадравай работы выканкаму і Аляксей Саўчык - старшыня абласной выбарчай камісіі.**

29 лістапада ў вобласьці пройдуць выбары па 550 «вакансіях» розных дэпутацкіх узроўняў. Найбольшую важкасьць маюць, натуральна, парламентарныя выбары. Па 14 вольных акругах рэгістрацыйны бар'ер адолелі 74 прэтэндэнты. Два чалавекі зьнялі свае кандыдатуры, яшчэ ў шасьці выбарчая камісія зафіксавала правапарушэньні. Па кожнаму выпадку былі прыведзены абсалютна пераканаўчыя аргументы. Пацьвердзіў адпаведныя адмоўныя рашэньні і цэнтрвыбаркам. Сярод «пакрыўджаных» апынуўся і прафесійны юрыст - кіраўнік Службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта Сяргей Гараеў. Ён вылучаўся адразу двума працоўнымі калектывамі, але адзін з іх (ЖРЭУ) знаходзіцца на тэрыторыі іншай выбарчай акругі, а другі (гарадскі паліклінікі N 1) не зьяўляецца юрыдычна самастойнай працоўнай арганізацыяй, а толькі складовай часткай тэрытарыяльна-медычнага аб'яднаньня. Сатысфакцыі таварыш Гараеў цяпер імкнецца дабіцца ў Канстытуцыйным Судзе. Цікава, што ў ліку 10 няўдалых вылучэнцаў у абласны Савет,пераважаюць высокапастаўленыя асобы. Варта падкрэсьліць, што на гэты раз выбарчыя камісіі кіраваліся выключна законамі і выявілі прынцыповасьць.

Невядома, аднак, ці будуць зацьверджаны дэпутаты, абраныя па 25-працэнтнай квоце. Усё залежыць ад волі «бацькі». Пазіцыя апошняга канчаткова вызначыцца пасьля вынікаў лістападаўскай «серады надзеі».

**Уладзімір МАЙНІЧ.**

## НЯЎЖО ЯШЧЭ РАЗ ВЫКІНЕМ НА ВЕЦЕР ГРОШЫ?

**Першым пытаньнем, якое разглядалася на Савеце кіраўнікоў прадпрыемстваў горада, які адбыўся 14 лістапада ў гарвыканкаме, была падрыхтоўка горада да выбараў.**

Справаздачу перад «дырэктарскім» корпусам трымала старшыня гарадзкой выбарчай камісіі сп.Пшанічнава.

Сёньня ў горадзе ў Вярхоўны, абласны і гарадзкі Савет балатуецца 271 чалавек. Аднак, на гэты час на правядзеньне выбарчай кампаніі фактычна няма сродкаў, за выключэньнем драбязы, выдзеленай на выбары ў Вярхоўны Савет. Гэта ня можа не насьцярожваць, бо горад мае горкі досьвед вясеньніх выбараў, калі толькі на друкаваньне выбарчых бюлетэняў пайшло, як сталася, марна 67 мільёнаў рублёў. Калі дзяржава вуснамі і справамі сваіх кіраўнікоў і надалей будзе адбіваць ахвоту ў людзей ісьці галасаваць, то і на гэты раз страты будуцьаграмаднымі.

Спадарыня Пшанічнава адзначыла таксама, што кіраўнікі прадпрыемстваў на дзіва пасіўна паставіліся да выбараў. У прыватнасьці, ніхто з іх не рызыкнуў балатавацца ў Вярхоўны Савет, а сярод 72 кандыдатаў у абласны кіраўнікоў прадпрыемстваў толькі пяць.

Закранулася на сустрэчы і пытаньне аб 25% ці 50%. Сп. Пшанічнава ў сувязі з гэтым заклікала ўсіх прысутных зрабіць усё, каб прыйшло 50 працэнтаў выбаршчыкаў, і тады праблема адпадзе сама сабой. Што ж, прыемна, што ўлады Горадні зразумелі, што без паўнакроўнай заканадаўчай улады нармальнае існаваньне дзяржавы немагчымае. Ці зразумеюць дырэктары?

**В.ДРЭМА.**

## ПРЭЗІДЭНЦКІ «ПАДАРУНАК» МЯСТЭЧКОВЫМ КАНДЫДАТАМ

**10 лістапада на сьвет зьявіўся чарговы «ўказ» А.Лукашэнкі. Двукосьсе ў дачыненьні да слова ўказ выкарыстана не выпадкова. Большасьць апошніх прэзідэнцкіх пастановаў у Канстытуцыйным Судзе на справе аказваюцца простымі кавалкамі паперы, ня маючымі ніякай сілы.**

Відавочна супярэчыць закону і Ўказ N 434 «Аб аб'яднаньні адміністрацыйных адзінак Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр». Згодна з ім, ліквідуюцца многія гарадзкія і пасялковыя Саветы ў раённых цэнтрах краіны. На Гарадзеншчыне, у прыватнасьці, - у Бераставіцы, Воранаве, Дзятлаве, Зэльве, Іўі, Карэлічах, Мастах, Астраўцы, Ашмянах, Сьвіслачы і Шчучыне. У сувязі з гэтым, там прыпыняецца правядзеньне выбараў у Саветы дэпутатаў гарадоў і пасёлкаў. Сотні вылучаных і зарэгістраваных кандыдатаў апынуліся ў нявызначаным стане: ці праводзіць перадвыбарчую кампанію, ці не. А да выбараў застаюцца лічаныя дні.




ЦЬВЁРДАЯ РУКА БАЦЬКІ

Між тым, аб'яднаньне мясцовых Саветаў можа праводзіцца толькі ва ўстаноўленым Вярхоўным Саветам парадку. Здавалася б, прэзідэнт павінен быць зацікаўлены ў тым, каб быў абраны новы Вярхоўны Савет, які такі парадак і ўстановіць. Але, відавочна, ніякія Саветы кіраўніку дзяржавы сёньня непатрэбныя. А што да «парадку», дык на яго сэнс і зьмест у прэзідэнта свой пункт гледжаньня. Вось толькі лёс аматараў усталёўваць «новыя парадкі» заўсёды даволі сумны.

**В.ДРЭМА.**

## ПОЛЬСКІЯ БІЗНЕСМЭНЫ АДКРЫВАЮЦЬ БЕЛАРУСЬ

**Сёньня ў Горадні сканчае сваю працу І Міжнародны гарадзенскі кірмаш, які адчыніўся 14 лістапада. Арганізавала кірмаш Польска-Літоўская гандлёвая палата з Сувалак пры ўдзеле Гандлёва-Прамысловай палаты Саюзу палякаў на Беларусі.**

Гандлёвы абарот паміж Польшчай і Беларусьсю ў гэтым годзе павінен дасягнуць прыкладна 400 мільёнаў долараў. Гэтая лічба больш чым на сто мільёнаў перавышае мінулагоднія паказчыкі. Беларусь для польскіх бізнесмэнаў становіцца ўсё больш перспектыўным рынкам для сваіх тавараў, бо ў той жа Летуве, па словах арганізатараў выставы, у крамах сёньня можна знайсьці такія ж тавары, як і ў Польшчы, няхай сабе і крыху даражэй яны каштуюць. Прываблівае палякаў і выгаднае геаграфічнае становішча Беларусі, магчымасьць весьці праз яе тэрыторыю гандаль з краінамі былога СССР. Таму ў выставе прынялі ўдзел больш 90 польскіх фірмаў, якія выставілі ў спартыўнай зале медінстытуту сваю прадукцыю. Акрамя таго, шмат польскіх бізнесмэнаў прыехала, каб спаткацца з беларускімі калегамі пад час бізнэс-сустрэч, якія праходзілі ў сераду і чацьвер.




*Смачныя ёгурты фірмы "Бакома"*

Разам з тым, сёньня пашырэньню эканамічных зносін паміж краінамі перашкаджаюць вялікія праблемы. У першую чаргу - вялізныя чэргі на мяжы ў Брузгах і Кузьніцы, адсутнасьць адпаведнай банкаўскай інфраструктуры, якая ахоплівала б Беларусь і Польшчу, розьніца ў мытным заканадаўстве і г.д. Пра ўсё гэта гаварылася на прэс-канферэнцыі ў дзень адкрыцьця кірмаша. Больш падрабязныя матэрыялы з яе, а таксама пра вынікі працы кірмаша чытайце ў наступным нумары.

**В.РУДНІК.**

**Фота У.Выдзеркі.**

## ЛУКАШЭНКА СПРАЧАЕЦЦА З КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДОМ

10 лістапада адбылася сустрэча прэзідэната Беларусі А.Лукашэнкі з беларускімі і расейскімі таленавітымі музыкамі, якія карыстаюцца падтрымкай дабрачыннага фонду «Новыя імёны». На гэтай сустрэчы кіраўнік беларускай дзяржавы сказаў: «Рашэньні Канстытуцыйнага Суда на тэрыторыі Беларусі выконвацца ня будуць». Каментуючы апошнія рашэньні КС аб прызнаньні неканстытуцыйнасьці шэрагу артыкулаў указу N 336 (Спыненьне дзейнасьці Свабоднага прафсаюзу Беларусі, а таксама скасаваньне дэпутацкага імунітэту), А.Лукашэнка заявіў: «В то время, как нужно было принимать ответственное рашение, председатель КС Валерий Тихиня спрятался в больнице, а двое судей собираются уехать в Германию. Я этого не допущу».

* * *

17 лістапада Канстытуцыйны суд мае намер прыступіць да дадатковага разгляду прынятых парламантам папраўак у Закон аб выбарах, згодна якім другі тур парламанцкіх выбараў лічыцца адбыўшымся пры яўцы 25% выбаршчыкаў. Нагадаем, што, каментуючы пазіцыю прэзідэнта адносна папраўак у выбарчы закон, сьпікер парламанту заявіў: «Рашэньне КС канчатковае і абскарджаньню не падлягае за выключэньнем тых выпадкаў, калі адкрываюцца новыя невядомыя суду факты па справе, а таксама ў выпадку, калі ўносяцца зьмены ў Канстытуцыю, якія супярэчаць рашэньню Канстытуцыйнага суда. Тыя, хто цісьне на Канстытуцыйны Суд, - злачынцы.» Чакаецца, што рашэньне аб паўторным разглядзе справы будзе абнародавана ў бліжэйшы час.

## «ХІМВАЛАКНУ» ПААБЯЦАНЫ ДАДАТКОВЫ КРЭДЫТ

Напярэдадні сустрэчы з Адольфасам Шляжавічусам у Горадні Міхаіл Чыгір наведаў адно з буйнейшых прадпрыемстваў горада - «Хімвалакно». Згодна слоў беларускага прэм'ера, нашую эканоміку могуць выратаваць толькі хімія і электроніка. Таму для прадпрыемстваў гэтых галінаў будуць ствараца адпаведныя ільготныя ўмовы. Так, нашаму «Хімвалакну» сп.Чыгір паабяцаў адтэрміноўку мытнага збору тэрмінам на два гады і дадатковы крэдыт на пераабсталяваньне прадпрыемства.

**В.МАЛЬСКІ.**

## СІМ ДЗЯКУЙ ВАМ, ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Пасьля жнівеньскіх страйкаў транспартнікаў Менска і Гомеля і рэпрэсіўных дзеяньняў уладаў былі звольнены з працы дзесяткі рабочых. Каля 80 сем'яў засталіся бяз сродкаў на жыцьцё. Цяжэй за ўсё маленькім дзецям. Іх нямала, таму што звольненыя ў большасьці маладыя людзі да 30 год. Свабодны прафсаюз Беларусі зьвярнуўся да людзей з заклікам аказаць дапамогу сем'ям звольненых. І гэты заклік быў пачуты. Грошы зьбіралі і перадавалі ў фонд дапамогі СПБ працоўныя калектывы многіх прадпрыемстваў Беларусі, а таксама Акадэміі Навук Беларусі. Вітаміны, лекі і дзіцячае харчаваньне перадаў Дзіцячы фонд «Сакавік»(прэзідэнт Марыя Міцкевіч). Дзіцячая вопратка прыбыла з далёкай Ірландыі, ад фірмы «Вільсан і Макбрын Лімітэд», што ў горадзе Дрогеда. Беларусы з Аўстраліі яшчэ ў 1991 годзе стварылі фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій. З гэтага фонду сем'ям звольненых было перададзена 300 долараў ЗША. Ірландыя і Нямеччына прынялі на адпачынак дзяцей страйкоўцаў. Мы шчыра ўдзячныя ўсім, хто падтрымаў рабочых і іхныя сем'і ў гэты нялёгкі час.

Тым, хто хоча дапамагчы, паведамляем нумар тэлефону Свабоднага прафсаюзу Беларусі ў Менску: **(0172) 27-57-78.**

**В. Буйвал**

## ЦІ БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ АЎТОБУС?

Праз некаторы час Беларусь можа атрымаць першыя, цалкам свае аўтобусы. Сёньня іх вытворчасьцю займаецца лідзкі завод «Нёман», які нядаўна выпусьціў у «сьвет» соты свой аўтобус. Але амаль палова камплектуючых (40%), вырабляецца за межамі нашай краіны. Над вытворчасьцю астатніх дэталяў працуе 21 беларускае прадпрыемства. У «Нёмане», дзякуючы гэтаму, свае, беларускія корпус, задні мост, рухавік. Зараз вядуцца перамовы аб вырабе ў Беларусі каробкі перадач і іншых камплектуючых дэталяў.

**В.Р.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# ГАЛАСУЕМ ЗА БЕЛАРУСЬ!

Мы ідзем адной камандай, каб у Вярхоўным Савеце адстойваць Вашыя інтарэсы!
Шлях да дабрабыту адзіны - незалежная дзяржава, цывілізаваная рынкавая эканоміка, дэмакратыя ў палітычным жыцьці, дакладнае выкананьне законаў краіны кожным.
Там, дзе людзі жывуць добра - ўсё гэта ёсьць.

**Гродзенская-Болдзінская выбарчая акруга N 121**



**ОСІПАВА**
**Галіна Тухтараўна**

Юрыст.Кандыдат юрыдычных навук. Дацэнт кафедры грамадзянскага права і працэсу Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту ім. Я.Купалы.
43 гады. Казашка. Член аб'яднанай дэмакратычнай партыі. Жыве на пр. Будаўнікоў. Мае сына і дачку.

**Гродзенская-Горкаўская выбарчая акруга N 122**



**МАЛЬЧЫК**
**Сяргей Сьцяпанавіч**

Урач. Кандыдат медыцынскіх навук. Дацэнт кафедры паталагічнай фізіялогіі Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту.
34 гады. Беларус.Мае двух сыноў. Жыве ў інтэрнаце па БЛК.

**Гродзенская-дзяржынская выбарчая акруга N 123**



**ЗАДАЛЯ**
**Валеры Сьцяпанавіч**

Журналіст, эканаміст, палітолаг. Намесьнік старшыні абласнога тэлерадыёаб'яднаньня. Дэпутат абласнога Савету.
42 гады. Беларус. Мае сына. Жыве на вуліцы Сацыялістычнай.Сябра БНФ.

**Гродзенская-Пралетарская выбарчая акруга N 124**



**ЖЫНЬ**
**Кастусь Уладзіміравіч**

Інжынер-электрык. Начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва «Гроднаэнэрга».
48 гадоў. Беларус. Мае дачку. Старшыня Гродзенскай гарадзкой Рады БНФ «Адраджэньне».

**Гродзенская-Прынёманская выбарчая акруга N 125**



**МАРКЕВІЧ**
**Мікалай Мікалаевіч**

Журналіст. Рэдактар газеты «Пагоня».
33 гады. Беларус. Мае двух сыноў і дачку. Жыве на праспекце 40 год Перамогі. Сябра Апазіцыі у Вярхоўным Савеце.

**Гродзенская-Сувораўская выбарчая акруга N 126**



**МІХАЛЬЧЫК**
**Аляксандр Аляксандравіч**

Інжынер-механік. Намесьнік генеральнага дырэктара ГВЦ «Вест».
53 гады. Беларус. Мае сына і дачку. Старшыня Кастрычніцкай Рады БНФ «Адраджэньне».

## *ГАЛАСУЕМ - ЗА !*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







## *Паважаныя жыхары старажытнай Горадні!*

Настаў той час, калі трэба з усёй адказнасьцю зрабіць свой выбар, бо ад таго, як вы прагаласуеце 29 лістапада, будзе залежаць , у якім накірунку пойдзе жыцьцё кожнага з нас у бліжэйшыя 5 гадоў.

Паспрабуйце адкінуць усе навязаныя вам перадузятыя погляды. Вашыя галасы на выбарах патрэбны ня толькі тым, хто зычыць вам дабра, але і тым, хто хоча пакарыстацца вамі і вынікамі вашай працы ў сваіх уласных інтарэсах. Гэтыя людзі робяць усё дазволенае і недазволенае, каб навязаць вам тыя думкі , якія ім выгадны, каб замбіраваць вас на сваю карысьць.

Мы раім вам не пазьбягаць удзелу ў выбарах, бо ваш няўдзел у іх выгадны тым, хто жадае на вас паразітаваць. Яны сьпецыяльна навязваюць вам ідэю ігнараваньня выбараў. Мы раім вам пастарацца ва ўсім разабрацца і скарыстаць сваё права на голас так, як падказваюць вам вашыя розум і сумленьне.

Адзінае, што мы хацелі б зрабіць напярэдадні выбараў - гэта нагадаць некаторыя факты і выказаць некаторыя меркаваньні. Вы ж вырашайце самі, правільна мы лічым, ці не.

Ужо 1,5 гады, як на пасаду прэзідэнта Беларусі большасьць з нас абрала тав.Лукашэнку. Можа, каб не памыліцца зноў, варта выкарыстаць у першую чаргу той досьвед, які «падараваў» нам гэты чалавек.

Успомніце яго рашучыя перадвыбарчыя абяцаньні: «запущу заводы до Нового года» (меўся на ўвазе мінулы Новы год); «уничтожу мафию и коррупцию»; «остановлю рост преступности»; «посажу его (меўся на ўвазе Кебіч) и 70 чиновников из его окружения; «верну потерянные вклады холодильниками и телевизорами». **З гэтых абяцаньняў не выканана ніводнае**. Больш таго, у пеньсіянераў забрана палова пеньсій, значная частка чыноўнікаў з кебічаўскага акружэньня ўвайшла ў каманду Лукашэнкі. **Ён не выканаў ніводнага свайго абяцаньня, якія даваў пасьля выбараў** (хаця і тады ніхто за язык не цягнуў), пачынаючы з абяцаньня ніколі больш (пасьля жніўня 1994 года) не падымаць цэны і скончаючы абяцаньнем паказаць па тэлевізару зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету, якія, адстойваючы гонар беларускага народу, аб'явілі галадоўку пратэсту.

А што ж зроблена? Ва ўмовах поўнага развалу эканомікі, ва ўмовах, калі некаторыя людзі сапраўды ўжо пачалі галадаць, наш «самый честный и скромный»: захапіў у сваё карыстаньне каля 200 будынкаў у цэнтры Менску, велізарныя грошы з якіх расходуе невядома куды; купіў сабе асабісты самалёт коштам 45 мільёнаў долараў (уласных самалётаў ня мае нават прэзідэнт Францыі ці канцлер Германіі); на ахову Лукашэнкі штодня ідзе да 40 тысячаў долараў (толькі за гэтыя грошы, накопленыя за 5 гадоў, можна было б пабудаваць жыльлё для многіх тысячаў сем'яў). Больш таго, **ужо год, як невядома куды ідуць грошы з захопленага Лукашэнкам бюджэту ўсёй Беларусі.**

З другога боку, у выніку эканамічнага курсу Лукашэнкі, сярэднестатыстычная беларуская сям'я кожны год недаатрымлівае да 2000 долараў, у тым ліку з-за таго, што за транзіт газу, нафты, за арэнду вайсковых баз і многае іншае Расея ня плоціць нам ні капейкі. Калі вы думаеце, што кошт на бензін і газ, у адпаведнасьці з абяцаньнямі Лукашэнкі, у нас такі ж , як у Расеі, вы памыляецеся - для нашых прадпрыемстваў, напрыклад, газ каштуе ў 2,5 раза даражэй.

Уваходжаньне Беларусі ў адзіную мытную прастору з Расеяй абмежавала магчымасьць гарадзенцаў купляць многія харчовыя і прамысловыя тавары на многа таньней. Цана для нас, напрыклад, на аўтамабіль падскочыла ў некалькі разоў, на цукар, алей і іншае - на 50 працэнтаў і больш. У той жа час, на сёньня сярэднямесячны заробак на Беларусі складае каля 40-50 долараў, а ў Латвіі ды Эстоніі, якія рашуча пайшлі самастойным шляхам, - наблізіўся ўжо да 200 долараў. Скажыце, чаму мы павінны плаціць за тое, што некаму зноў хочацца некуды ўступіць; жыць горш з-за таго, што хтосьці з кімсьці хоча з'інтэгравацца?!

А як растлумачыць чалавеку са здаровым розумам такі факт: пакуль праедзеш па шашы з Горадні да Менску, цябе 3-4 разы затрымаюць на нейкіх пастах, наставяць на цябе аўтаматы, абшукаюць. Калі гэта барацьба са злачыннасьцю, дык чаму тады няма ніводнага паста на мяжы Беларусі з Расеяй, адкуль гэтая злачыннасьць да нас, у асноўным, ідзе?

Усе ўказы Лукашэнкі, разгледжаныя ў Канстытуцыйным Судзе, з-за іх незаконнасьці адменены. Ён праіграў суд Пазьняку і мусіў прасіць у яго прабачэньня за паклёп (дарэчы, як і Азаронак з-за фільма «Нянавісьць» пасьля суда павінен зрабіць тое ж). Можна быць упэўненым, што Лукашэнка праіграе суд і Карпенку па, так званаму, «хлопковому делу».

Апошнім часам Лукашэнка прыкладае максімум намаганьняў, каб дыскрэдытаваць патрыятычна і дэмакратычна настроеных людзей, называючы іх ня йначай, як «национал-экстремисты и деструктивные силы», але ніхто яму нічога запярэчыць ня можа, бо апошнія 1,5 гады па тэлебачаньню і радыё па палітычных, эканамічных і сацыяльных праблемах можа выступаць практычна толькі ён з усё новымі абяцаньнямі. Калі ж якая-небудзь інфармацыя прасочыцца ў друк -могуць зьявіцца белыя плямы, могуць быць звольнены рэдактары.

Пабачыўшы рэальнага «бацьку», ад яго адыйшлі ня толькі такія былыя паплечнікі, як Ганчар, Фядута, Булахаў, але і больш паважаныя людзі, прафесіяналы сваёй справы - старшыня нацыянальнага банку сп.Багданкевіч, міністр унутраных спраў сп.Захаранка, вось-вось адыйдзе міністр замежных спраў сп.Сянько. Хто наступны?

Той стан, да якога даведзена нашае грамадзтва ў выніку дзеяньняў лукашэнкаў, кебічаў і іх папярэднікаў, больш ня можа быць цярпімым. Таму мы - прадстаўнікі розных партыяў і рухаў, а таксама беспартыйныя, нягледзячы на пэўную розьніцу нашых поглядаў у дэталях, - павінны аб'яднацца, каб адстойваць вашыя інтарэсы ў Саветах усіх узроўняў. **Мы лічым, што Беларусь павінна стаць эўрапейскай краінай, а жыхары Горадні павінны жыць у цывілізаваных умовах і мець эўрапейскі ўзровень жыцьця!**

Асаблівасьць нашых поглядаў на грамадзтва (у адрозьненьні ад прадстаўнікоў камуністычна-імперскіх сіл) заключаецца ў тым, што мы не зьбіраемся шукаць цудадзейных шляхоў вырашэньня ўсіх праблем, а прапануем проста браць усё тое лепшае, што вынайдзена чалавецтвам, і выкарыстоўваць у нас - на Беларусі і ў Горадні.

Зараз у сьвеце існуе каля 200 дзяржаў. Лёгка параўнаць, дзе людзі жывуць добра, а дзе кепска. Ня цяжка таксама высьвятліць, чаму яны так жывуць. **Людзям добра там, дзе яны жывуць у сваіх незалежных краінах, ва ўмовах палітычнай дэмакратыі, цывілізаванай рынкавай эканомікі, дзе ўсе (ад прэзідэнта да дворніка) строга падпарадкоўваюцца законам краіны.**

А што ў нас? Дзікая, рабаўніцкая прыхватызацыя Кебіча зьмянілася адсутнасьцю разьвіцьця якіх бы ні было рынкавых адносін пры Лукашэнку. Зьмяняюцца толькі лозунгі. Раней: «Победа коммунизма во всём мире». Цяпер: «Интеграция России и Беларуси». Зьвярніце ўвагу на галоўнае - аб дабрабыце, аб чалавечым, годным жыцьці, гаворка ў іх ня йшла і ня йдзе.

Для тых, хто ўсё яшчэ не асэнсаваў значэньня незалежнасьці Беларусі, раім задумацца над такім фактам. За прайшоўшыя пасьля першай анэксіі Беларусі Расіяй 200 гадоў нашыя сыны гінулі ў 77 войнах - у пераважнай большасьці супраць сваёй волі і без усялякай карысьці для Бацькаўшчыны. Апошняя з гэтых войнаў - Афганская. Ад ганебнай Чачэнскай вайны нас і нашых сыноў пакуль ратуе нашая кволая незалежнасьць.

***Дык давайце ўпершыню ў сваім жыцьці прагаласуем за Беларусь, за сябе. За нармальную будучыню для нашых дзяцей і ўнукаў!***

# ТРЭЦЯЙ СІЛЫ НЯМА

**(з выступу старшыні БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка на Сойме БНФ)**

Той стан,які зараз перажывае нашая краіна,я б назваў крытычным. Вельмі шмат залежыць ад выбараў. Ад іх ў значнай ступені будзе залежаць бліжэйшы лёс нашай краіны. У гэтай сітуацыі нам вельмі важна цьвяроза ацэньвыць падзеі і не нарабіць памылак, правільна спраграмаваць сваю тактыку і свае паводзіны. Зараз выдзелілася некалькі грамадзкіх і палітычных сілаў, якія маюць свае інтарэсы. Перш за ўсё я выдзеліў бы сілу, якую ўмоўна можна назваць «хунта» - гэта вертыкаль, выканаўчая прэзідэнцкая сістэма ўлады. Яе палітыка і тактыка відавочныя. Гэта карпаратыўны рэжым, у аснове якога перадзел маёмасьці дзяржавы і ўласнае аьагаценьне. Гэта інтарэсы , якія рухаюць палітычнымі паводзінамі гэтых людзей. Асобае месца тут займае сам прэзідэнт Лукашэнка. Але яго глыбінныя інтарэсы і ягоных падначаленых вельмі блізкія.

Ня буду спыняцца на тых падзеях, якія вам вядомыя: як забараняюцца газэты, манапалізуюцца радыё, тэлебачаньне. Сутнасьць у тым, што рэжым стараецца ўмацаваць сваё адзінаначальле і ўплывае на ўсе сферы палітыкі і жыцьця. І, тым ня менш, мы бачым, што імкненьне пабольшыць гэтыя ўплывы ёсьць, але рэальнае ўздзеяньне не павялічваецца. Нават зьмяншаецца, таму, што палітыка настолькі ў абвале і прымітыўная, не падмацаваная эканомікай, не падмацаваная пазітыўнымі сацыяльнымі зрухамі ў грамадзтве, што гэтыя палітыка выклікае псіхалагічнае непрыняцьце ў значнай часткі людзей.

Другая група, якую можна выдзеліць - гэта камуністы і аграрнікі. Практычна гэта адно і тое. Гэта старшыні калгасаў, былыя сакратары райкамаў, якія займаліся сельскай гаспадаркай, пытаньнямі прамысловасьці. Гэтыя людзі, што займалі пасады ў КПСС, якія ўяўлялі адзін ідэалагічна-палітычна-аграпрамысловы комплекс,гэтыя людзі зараз знайшлі сабе выхад праз Аграрную партыю.

Зразумела, чаму ідзе такая падтрымка вертыкальлю Аргарнай партыі, і чаму ёсьць матэрыяльнае забесьпячэньне, і чаму яны ўяўляюць зараз самую ўплывовую сілу. Можна зразумець, чаму яны пайшлі пад сваёй шырмай, сваім сьцягам, а не зьядналіся з мітынговымі камуністамі. Але не павінна быць сумненьня, што гэта адно і тое ж. Гэтыя дзьве групы ўяўляюць першую сілу.

Другая сіла, якая супрацьстаіць ім, гэта Народны Фронт.

На працягу пяці-шасьці гадоў мы чуем пастаянныя размовы пра трэцюю сілу, пра цэнтрызм. І ніякай трэцяй сілы не зьяўляецца, і ніякага цэнтрызму такса-ма. Для таго, каб зразумець гэтую палітычную раскладку, трэба зразумець нашае грамадзтва.

Грамадзтва нашае падзелена на дзьве часткі. Першая частка - гэта тыя людзі, якія бачаць сваю будучыню праз аднаўленьне мінулага, аднаўленьне Савецкага Саюза, КПСС і г.д. За гэтым стаіць пэўная псіхалогія, як мы кажам, «саўковая».

Людзі старэйшага пакаленьня, людзі, псіхалогія якіх фарміравалася ва ўмовах, калі ім не было чаго траціць, акрамя сваіх ланцугоў. Людзі не мелі ўласнасьці і ў іх адпаведная псіхалогія. Гэтая частка зьвязвае сваю будучыню з пэўнымі інтэграцыйнымі працэсамі. Але гэтыя інтэграцыйныя працэсы ў межах аднаўленай імперыі.

Другая частка грамадзтва - гэта людзі ў асноўным інтэлектуальнага кшталту, больш маладога пакаленьня, больш энергічныя і нацыянальна сьвядомыя. Гэтыя людзі зьвязваюць сваю будучыню з незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай. Незалежная дзяржава, інтэграцыя з Эўропай, рыначная эканоміка, нацыянальнае адраджэньне - вось другая частка грамадзтва.

Гэтую частку грамадзтва выяўляе Народны Фронт. Першую частку грамадзтва, якая глядзіць ў мінулае , выяўляюць камуністы, зьвязаны з імі Лукашэнка і аграрнікі. Тут, як паміж жыцьцём і сьмерцю. Трэцяй катэгорыі няма. Няма ў нас трэцяй сілы ў грамадзтве, а адпаведна гэтаму няма і ў палітыцы. Ёй няма каго выражаць.

Але чаму ўзьнікаюць такія погляды. Па-першае, яны маюць прапагандысцкі сэнс. Па-другое, мноства партый, якія ўтварыліся і падыходзяць пад катэгорыю малых партый, ня маюць сваёй ідэалогіі, ня маюць сваіх структураў і ня маюць адпаведнага вопыту работы з людзьмі. Таму яны могуць лёгка мяняць свае перакананьні, таму яны лёгка аб'ядноўваюцца, раз'ядноўваюцца, разыходзяцца і г.д.

Мы гэта павінны разумець, каб не трапляць у пастку, расстаўленую для нашага выбаршчыка. Вось, маўляў, крайнія сілы, а вось - цэнтр, які нікуды не павядзе. Гэта ілюзія і гэтую ілюзію трэба развейваць таму, што нашае грамадзтва фактычна робіць выбар паміж адной сістэмай і другой. Або імперыя і нас няма, або нацыянальная дзяржава, і мы інтэгруемся з Эўропай як краіна. Нават, калі няма ўсьведамленьня гэтага на лагічным узроўні, то падсьвядома людзі гэта разумеюць. Не выпадкова на выбарах вясной галасы дзяліліся паміж камуністамі і Народным Фронтам.

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Эканоміка краіны прайшла ўжо стадыі крызісу і хаосу. Яна ўступіла ў стан распаду. Стаяць альбо працуюць не на поўную магутнасьць многія фабрыкі і заводы. Іх склады забітыя прадукцыяй,якую немагчыма прадаць. Большасьць абаротных сродкаў прадпрыемстваў замарожаная. Схаванае беспрацоўе дасягнула 20 працэнтаў. На мяжы банкруцтва пераважная большасьць калгасаў. Хутка ўзрастае вонкавая і ўнутраная запазычанасьць дзяржавы.

Пагаршаецца сацыяльна-палітычная сітуацыя. Прэзідэнт А.Лукашэнка і яго «каманда» ня ў стане справіцца з гаспадарчым крызісам. Таму ён узмацняе рэпрэсіўны апарат,на ўтрыманьне якога за 7 месяцаў гэтага года выкарыстана 95 працэнтаў сродкаў, прадугледжаных бюджэтам на год. Вайсковыя часткі з цяжкай зброяй перадаюцца ў склад унутраных войскаў. Павялічваецца колькасны склад міліцыі. Прэзідэнт стварыў асабістую ахову,для ўтрыманьня якой фактычна ва ўласную маёмасьць прэзідэнта забрана ў Менску каля 300 будынкаў. Горад пазбаўлены значнай часткі даходаў для ўтрыманьня камунальнай гаспадаркі і грамадзкага транспарту.

Усё гэта сьведчыць, што ўрад рыхтуецца ўжыць сілу.

Асабліва небясьпечныя атакі, якія робіць прэзідэнт А.Лукашэнка на асновы правапарадку ў краіне. Ён імкнецца не дапусьціць стварэньня дзеяздольнага Вярхоўнага Савету - найвышейшага прадстайнічага і адзінага заканадаўчага воргана ўлады. Ён адкрыта заяўляе аб непрызнаньні рашэньняў Канстытуцыйнага Суда - найвышэйшага воргана судовай ўлады. Ён правакуе масавае парушэньне законаў, не адмяняючы ўказы, якія парушаюць Канстытуцыю.

Наша Бацькаўшчына ў небясьпецы. Адзіны цывілізаваны выхад са склаўшагася становішча - мабілізацыя эканамічных рэформаў і выбары. Кожная грамадзянка, кожны грамадзянін сталага ці маладога ўзросту павінны памятаць, што ад іхняга голасу, пададзенага 29 лістапада і 10 сьнежня будзе залежаць лёс Беларусі.

Усе на выбары! Спынім дыктатуру! Абаронім незалежнасьць нашай краіны! Зробім крок ад жабрацтва да дабрабыту!




ЗЬДЗЕЙСЬНЕНЫ ЗАПУСК ЗАВОДАЎ І ФАБРЫК ДА 1.02.95 г.

## ЗВАРОТ ДА МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» зьвяртае ўвагу міжнароднай супольнасьці на тое, што ў Беларусі адбываецца хуткая эвалюцыя палітычнага рэжыму ў кірунку ад дэмакратыі да рэстаўрацыі таталітарызму. Прэзідэнт Лукашэнка імкнецца цалкам паралізаваць дзейнасьць заканадаўчай і судовай улады. Рашэньні Канстытуцыйнага Суда, якія прызнаюць неканстытуцыйнымі шматлікія ўказы прэзідэнта, дэманстрацыйна ігнаруюцца. Нішчыцца свабода слова, перасьледуюцца незалежныя газеты, парушаюцца правы чалавека. У гэтых умовах існуе вялікая рызыкаператварэньня паўторных парламанцкіх выбараў 29 лістапада 1995 года ў фарс. Антыдэмакратычныя працэсы ў Беларусі ствараюць пагрозу дэмакратыі і стабільнасьці ў цэлым Усходне-Эўрапейскім рэгіёне. Заклікаем міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных краін, палітычныя і грамадзкія структуры зьвярнуць самую пільную ўвагу на становішча ў Беларусі і прыслаць сваіх назіральнікаў на выбары.

## ЗАЯВА СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Сваім указам прэзідэнт Лукашэнка прызначыў намесьнікам старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь палкоўніка Федэральнай службы бясьпекі Расейскай Федэрацыі Леаніда Ерына. Гэта далёка ня першае прызначэньне на адказныя пасады ў КДБ Беларусі функцыянераў з расейскай разьведкі, якія нават ня маюць беларускага грамадзянства. Не надаюць міжнароднага аўтарытэту нашай краіне і захады прэзідэнта дзеля вызваленьня асуджанага ў Ізраілі савецкага шпіёна, якія Лукашэнка рабіў пад час візыту ў ЗША. Беларускі Народны Фронт ацэньвае такія дзеяньні прэзідэнта Лукашэнкі як палітыку ў інтарэсах расейскіх сьпецслужбаў, накіраваную на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# СУМЕЖЖА

## ВІЗІТ ЛЕТУВІСКАГА ПРЭМ'ЕРА Ў ГОРАДНЮ

**10 лістапада ў Горадні адбылася сёмая па ліку сустрэча прэм'ер-міністраў Летувы і Беларусі Адольфаса Шляжавічуса і Міхаіла Чыгіра. Вынікам сустрэчы стала падпісаньне Пратакола аб памежных сувязях і экалогіі.**

Літоўская дэлегацыя, у склад якой уваходзілі міністры гандлю, энергетыкі, прамысловасьці, намесьнік міністра транспарту, дырэктар Мытнага дэпартаманту, іншыя адказныя асобы і журналісты, прыехала ў Горадню ў сярэдзіне дня. На мяжы дэлегацыю сустракалі Міхаіл Чыгір і кіраўніцтва Гарадзенскай вобласьці. Як распавялі летувіскія калегі-журналісты, дарога зрабіла на іх найбольшае ўражаньне: картэж машын у суправаджэньні нашай міліцыі на вялізнай хуткасьці ляцеў па шашы пасярэдзіне дарогі, акурат па размеркавальнай паласе. Рух іншых транспартных сродкаў на дарозе ад Друскенік да Горадні быў спынены.

Месца сустрэчы прэм'ераў было абрана невыпадкова. Гарадзенскі энэргетычны вузел атрымоўвае электраэнэргію з Ігналінскай АЭС. Колькасьць спажытай у гэтым годзе электраэнэргіі ўжо вымяраецца 20-25 мільёнамі долараў і лічба гэтая працягвае расьці, бо сёньня летувіская энэргія каштуе таньней за расейскую. Разам з тым, да гэтага часу былі праблемы з узаемаразьлікамі і плацяжамі за спажытую электраэнэргію.

Гэтыя пытаньні абмяркоўваліся пад час наведваньня прэм'ерамі вытворчага аб'яднаньня «Азот». У выніку было дасягнута пагадненьне аб пастаўках прадукцыі «Азота» ў абмен на электраэнэргію. Пры гэтым узаемаразьлікі можна будзе весьці як у цьвёрдай, так і ў нацыянальных валютах.

Варта зазначыць, што апошнім часам у паветры пачала лунаць думка аб наданьні Ігналінскай АЭС міждзяржаўнага, беларуска-летувіскага статуса, бо суседняй дзяржаве адной вельмі цяжка вырашаць праблемы з выпрацоўкай сыравіны, неабходнай для працы станцыі.

Аднак асноўнымі пытаньнямі, якія абмяркоўваліся на перамовах, былі памежнае супрацоўніцтва і экалогія. Сёньня перасячэньне беларуска-летувіскай мяжы каштуе кожнаму сапсаваных нерваў - праблемы з візамі, чэргі на мяжы. Нават на сьвяты наведаць сваякоў у Вільні стала вялікай цяжкасьцю. У выніку перамоваў дасягнута пагадненьне аб стварэньні да 1 лютага 1996 года 17 спрошчаных пераходаў на мяжы. Беларускі бок для гэтага зьбіраецца павялічыць колькасьць супрацоўнікаў мытні, каб паскорыць перасячэньне мяжы як людзьмі, так і грузамі. Абодва бакі выказалі зацікаўленасьць у належным функцыянаваньні дзевятага транспартнага калідора, які, зьвязваючы Афіны і Хельсінкі, праходзіць праз Беларусь і Летуву.



Абодва бакі дамовіліся таксама аб мерах па барацьбе з забруджаньнем басейна Нёмана. Гэтай праблемай надалей будзе займацца сумесная камісія.

Разам з тым, чарговы раз па-за ўвагай перамоваў засталіся пытаньні аб беларускай маёмасьці на тэрыторыі Летувы, у прыватнасьці, некалькіх будынкаў у Вільні і санаторыя «Беларусь» у Друскеніках. У той час, як летувіскі бок рэгулярна клапоціцца пра сваіх суайчыньнікаў у Беларусі (будаўніцтва нацыянальна-культурных цэнтраў яскравы таму доказ), наш урад, здаецца, забыўся, што тая ж Вільня нядаўна была адным з культурных цэнтраў Бацькаўшчны, што там засталіся людзі, якія гэта памятаюць, якія спрабуюць захаваць беларускую культуру ў Летуве.

Міністры разьехаліся, а пытаньні засталіся. І адно з галоўных сярод іх - хто ў Беларусі паклапоціцца пра Беларусь?

**В.РУДНІК.**

**Фота У.Выдзеркі.**

**ІЗНОЎ ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ!**

На "ПАГОНЮ" Вы можаце падпісацца ў любым аддзяленьні сувязі. Кошт падпіскі на паўгоддзе - 48 тысяч рублёў, на квартал - 24 тысячы, на месяц - 8 тысяч рублёў.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёньня!**

## «АЗОТ» ДАМОВІЎСЯ З КЛАЙПЕДАЙ

Адным з буйнейшых экспарцёраў у Беларусі зьяўляецца гарадзенскае вытворчае аб'яднаньне «Азот». Значная частка прадукцыі прадпрыемства ідзе праз летувіскі порт Клайпеда. Да гэтага часу разгрузка вадкіх і іншых угнаеньняў, якія карыстаюцца за мяжой найбольшым попытам, ішла прама з «колаў». У сувязі з гэтым, прадпрыемства вымушана было прытрымлівацца жорсткага графіку чыгуначных паставак, што патрабуе сёньня вялікіх высілкаў.

Зараз дасягнута пагадненьне з кіраўніцтвам порта, якое згадзілася выдзяліць беларусам два нафтасховішчы. Іх можна будзе выкарыстоўваць для стварэньня буферных запасаў вадкіх угнаеньняў, якія затым будуць перапампоўвацца на караблі.

Аднак застаецца яшчэ адна важная праблема. Эўрапейскі Савет у свой час увёў абмежаванні на пастаўку калійных угнаеньняў. Таму экспартныя магчымасці "Азота" даволі абмежаваныя. У сувязі з гэтым беларускі урад намераны прасіць Летуву пасадзейнічаць у скасаваньні для Беларусі гэтых абмежаваньняў, што дазволіць павялічыць азотоўскі грузапаток праз Клайпеду ў Эўропу. Не выключана, што для гэтага "Азот" будзе укладаць свае інвестыцыі у рэканструкцыю Клайпедскага порта.

**В.МАЛЬСКІ.**

## ДЗЯРЖАВА Ў АПАЗІЦЫІ ДА «БАЦЬКАЎШЧНЫ»

**Такую выснову зрабілі ўдзельнікі сустрэчы кіраўнікоў замежных суполак Згуртаваньня Беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», што адбывалася 11-12 лістапада ў Менску. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары ўсіх краін СНД, а таксама з Велікабрытаніі, ЗША, Польшчы, Бельгіі, Чэхіі. Прадстаўнікі канадскіх і аўстралійскіх беларусаў даслалі прывітальныя тэлеграмы.**

- Хоць сустрэча і была прымеркавана да пятай гадавіны стварэньня «Бацькаўшчыны», - гаворыць старшыня рады Згуртаваньня Ганна Сурмач, - але настрой у нас быў далёка не сьвяточны.

Працэс разбурэньня беларускай дзяржаўнасьці, які імкліва набірае абароты, мае вынікам поўнае ігнараваньне ўладамі праблем трохмільённай грамады беларусаў, якія сёньня жывуць па-за межамі Радзімы.

Тое, што ўдалося зрабіць за папярэднія гады дзейнасьці гэтай грамадзкай няўрадавай арганізацыі, фактычна перакрэсьлена пазіцыяй ураду. Пастаўлены крыж нават на выкананьні дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў сьвеце», якая прадугледжвае ўсебаковае разьвіцьцё кантактаў з суайчыньнікамі за мяжой, для прыцягненьня на Беларусь інвестыцыяў, стварэньня пазітыўнага іміджу маладой дзяржавы...

Усе звароты «Бацькаўшчыны» да ўраду застаюцца без водгука. На ўтвораны ня так даўно пры Кабінеце Міністраў Савет па нацменшасьцях і беларусах блізкага замежжа кіраўнікі Згуртаваньня не запрашаюцца ўвогуле. Калі рабоце Першага зьезду беларусаў сьвету прымалі ўдзел старшыня Вярхоўнага Савету, больш 10 міністраў, то на цяперашнюю сустрэчу не прыйшоў ніхто, з тых, хто мае ўладу.

Правёўшы дыскусію аб праблемах вяртаньня беларусаў на гістарычную Радзіму, аб забесьпячэньні патрэбаў дыяспары ў галіне адукацыі і культуры ўдзельнікі сустрэчы прынялі Зварот да Прэзідэнта, у якім зьвярнулі ўвагу на тое, што дзяржава нясе вялікі маральны і матэрыяльны ўрон з-за невыкарыстаньня вялікага і ўнікальнага патэнцыялу сваёй дыяспары.

## ПРЫВІД КАНФЕДЭРАЦЫІ

**Ідэя канфедэрацыі, якая выцягнута на сьвет у апошнія часы Лукашэнкам, па рознаму ўспрымаецца ў Расеі.**

**Ельцын і Чарнамырдзін падтрымліваюць гэтую ідэю, пакуль яна зьяўляецца ідэяй. Але па-за таннай папулісцкай палітыкай, канфедэрацыя ім не патрэбна. Усё, што неабходна мець ад Беларусі, акрамя пушачнага мяса, Расея мае і так.**

Канфедэрацыя не патрэбна і расейскім нацыяналістам: іх можа задаволіць Беларусь толькі ў якасьці губерні. Пасьля ўсіх выбараў, якія павінны адбыцца ў Расеі, пра ідэю канфедэрацыі забудуць і камуністы і другія левыя - казыр гэты някепскі ў гульні, а практыка жыцьця грунтуецца не на казырах, а на эканамічных і геапалітычных рэаліях. Якія ж гэта рэаліі?

Беларусь па сваіх маштабах нельга параўнаць з Расеяй і аб'ядноўваць іх у арэндную дзяржаву так жа недарэчна, як зьмясьціць зайца ў бярлогу да мядзьвядзя. «Старэйшы» брат можа проста нават па выпадкова прыдушыць «малодшага». Беларусь рэальна ня будзе мець аніякіх правоў у такой дзяржаве. Дый нікому мы там не патрэбны ў якасьці нахлебнікаў.

Вельмі важна для эканомікі Расеі, што прыбытак, які атрымоўваецца ад экспарту нафты, газа і іншых рэсурсаў, стабілізуе спажывецкі рынак гэтай краіны, не дае яму апусьціцца занадта нізка. Беларусь, на жаль, такога эканамічнага стабілізатара ня мае, таму спажывецкі рынак тут можа ўшчэнт разваліцца. Гэтаму садзейнічае блізарукая палітыка нашых уладаў, якія рэжуць нават пеньсіі. Гэтыя грошы зьнікаюць у «чорных дзірах» дзяржавы.

Але Расея пры самых рэзкіх варянтах аб'яднаньня ня будзе траціцца на свайго новага адміністрацыйнага сябра. Толькі вельмі наіўны чалавек можа спадзявацца, што нашы храчы, настаўнікі, пеньсіянеры і другія бюджэтнікі атрымаюць нешта праз расейскія каналы. Сёньня ва ўсім сьвеце ўсьведамляюць простую і жорсткую ісьціну: жыць патрэбна па сродках, сваіх, асабістых сродках. Тым больш, што расейскія настаўнікі, шахцёры самі ніяк ня могуць атрымаць свой заробак ў тэрмін.

З другога боку, Беларусь ад інтэграцыі праз год-два будзе мець толькі адны страты: у складзе канфедэрацыі яна ня будзе атрымліваць прыбыткаў ад транзіту, а за нафту і газ хутка прыдзецца плаціць па сусьветных цэнах, бо ўсе цэны падраўноўваюцца.




мытны саюз у дзеяньні

У лепшым выпадку аб'яднаньне дзьвюх нашых краін дасьць такі ж эфект, як інтэграцыя краін у СНД, дзе ўсё зводзіцца да эфекту прысутнасьці чыноўнікаў на паседжаньнях розных міждзяржаўных органаў. І тут трэба адзначыць, што канфедэрацыя - блакітная мара чыноўнікаў, некалькі сот, а можа нават тысяч якіх будуць атрымліваць някепскае «жалованне», камандзіровачныя, транспарт і гэтак далей, не выраблюючы аніякай прадукцыі, акрамя папер. Відавочна, не выпадкова Уладзімір Шумейка, сьпікер Савету Федэрацыі Расеі, так зацята ўзяўся адстойваць ідэю «экономической и политической интеграции» дзьвюх краін. Ён мае нейкія шанцы стаць прэзідэнтам новага міждзяржаўнага ўтварэньня (ва ўсялякім выпадку, марыць ня блага). Па другіх зьвестках, на гэтую пасаду меціць і наш «бацька (калі гэта так, то тады зразумела яго кіпучая інтэгрцыйная дзейнасьць).

Усе, хто мае дачыненьне да эканомікі, разумеюць, што ў сувязях Беларусі з Расеяй сёньня ўсе што патрэбна - гэта ўніфікацыя заканадаўства, і што розныя бюракратычныя надбудоўкі лягуць толькі цяжарам на кішэні нашых грамадзян.

Але ідэя канфедэрацыі міжволі грэе душы мільёнаў тых, хто лічыць сябе пацярпелым ад развалу СССР, нараджае ў іх ілюзіі, што інтэграцыя ў нейкую дзяржаву верне ім ранейшы дастатак. На гэтых ілюзіях разьлічваюць «наварыць» някепскі палітычны капітал многія палітыкі абедзьвюх краін. Але ілюзіі разьвеяцца, а плаціць за усе бюракратычныя авантуры прыдзецца народам і ў першую чаргу народу Беларусі.

**Вячаслаў АЎСЕЙЧЫК**

## МАСТАЦТВА НЯ МАЕ МЕЖАЎ

**10 лістапада ў выставачнай зале Гарадзенскага краязнаўчага музея ў Новым замку адбылося адкрыцьцё выставы сучаснага польскага мастацтва, якая прысьвечана нацыянальнаму сьвяту Польшчы - 11 лістапада. Арганізатарамі падзеі, былі Генеральнае консульства РП у Горадні і Гарадзенскі абласны гісторыка-краязнаўчы музей.**

Выставу адкрыў Генеральны консул РП у Горадні пан доктар Марыюш Машкевіч, які пасьля нешматлікіх і кароткіх прамоваў запрасіў усіх прысутных да агляду выставы з пажаданьнем добрых уражаньняў і настрою.

Ужо пачатак агляду падараваў пачуцьцё вытанчанай пяшчоты ад знаёмства з палотнамі нашага земляка Ежы Пагажэльскага, на якіх пададзены залітыя сонечным сьветам ціхія і ветлыя пейзажы. Большасьць твораў у зале адпавядае рэалістычным поглядам мастакоў. Зрэшты, як на Беларусі, так, відаць, і ў Польшчы, большасьць гледачоў здольны ўспрымаць рэалістычнае мастацтва.

Чэслаў Тарчыньскі. Яго творы вылучае неспакойны, бурлівы мазок, які стварае дынамічную віхуру фарбаў, што нараджае таямнічыя і дэкаратыўныя краявіды. Арыгінальнай тэхнікай і лаканічнасьцю мастацкага вобразу вабіць палатно Ганны Ваврыковіч-Жаковіч «Недавыказанае». Ломкія лініі абрысаў і ўвядзеньне чырвонага колеру ў цэнтральную частку графічнага трыптыху Дарыюша Слота «Qvo vadis» надаюць твору высокае драматычнае напружаньне.

Камерная па колькасьці твораў, жанрах і пабудове экспазіцыі выстава ўяўляе сабой частку юбілейнай выставы чэнстахоўскага аддзяленьня Саюза польскіх мастакоў, які ў гэтым годзе адзначыў 50-ыя ўгодкі.

У вялікім натоўпе, што сабраў вернісаж у Новым замку, цяжка было ўгледзецца ў творы, абмяняцца ўражаньнямі, але знаёмства адбылося і будзем мець надзею - яно будзе працяглым. А заўтра... Заўтра можна зноў вярнуцца ў гэтую залу, каб прыпыніцца ля кожнага твора і паасобку паразмаўляць з кожным майстрам.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**

## ГОРАДНЯ ВЫБРАЛА ВАЛЭНСУ

**5 лістапада Польшча выбірала новага прэзідэнта. Як вядома, у першым туры з невялікай перавагай выйграў Аляксандр Квасьнеўскі, які ў другім туры паспаборнічае з цяперашнім прэзідэнтам Лехам Валэнсай.**

Грамадзяне Польшчы, якія жывуць у Горадні ( а іх у нас 245 чалавек) таксама мелі магчымасьць зрабіць свой выбар. Аднак у выбарах узяло ўдзел толькі 117 асобаў. Бясспрэчнай сімпатыяй у іх карыстаецца Лех Валэнса, за якога аддалі свае галасы 81 чалавек. Аляксандр Квасьнеўскі мае 20 галасоў. На трэцім месцы Яцак Курань - 10. Анна Гранкевіч-Вальц, Ян Альшэўскі і Тадэвуш Зялінскі набралі адпаведна тры і па аднаму голасу. Астатнія 7 прэтэндэнтаў у жыхароў Горадні «попытам» не карысталіся.

Паводле польскага выбарчага заканадаўства, грамадзяне Польшчы, якія жывуць за мяжой, у другім туры ўдзельнічаць ня могуць.

**Ул.інф.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

